Інавацыі ў выхаванні

# Імпульс, які дае магчымасць "перавярнуць усю сваю школу"

*У сталічнай гімназіі №12 па ініцыятыве Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі кіраўнікоў сярэдняй адукацыі і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь прайшоў семінар "Інавацыйныя педагагічныя тэхналогіі ў кіраванні выхаваўчай работай". У ім прынялі ўдзел кіраўнікі навучальных устаноў з розных абласцей краіны, сталічная педагагічная грамадскасць, а таксама прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, Маскоўскага раёна Мінска.*

Абмеркаванне пачалося з пытання аб тым, ці сапраўды сучасная адукацыя дае не толькі пэўныя веды, але і фарміруе светапогляд, культуру асобы, маральныя якасці, ці заўсёды адукаваны чалавек добра выхаваны. Сёння і ў той жа Расіі, і ў нашай краіне дастаткова многа людзей з высокім узроўнем эрудыцыі, інтэлекту, адукаванасці, але, на жаль, з нізкай планкай духоўнасці і маралі.

Зыходзячы з гуманістычных прынцыпаў і павагі да асобы, выхаванне, па словах начальніка Галоўнага упраўлення сацыяльнай выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Г.А.Бутрыма, — гэта спецыфічны працэс фарміравання сацыяльных і духоўных адносін. Адсюль задача педагагічнай грамадскасці бачыцца ў стварэнні ўмоў для мэтанакіраванага, сістэматычнага развіцця асобы. Вельмі важнае месца тут займае развіццё мыслення дзіцяці. Гэтая думка не аднойчы гучала падчас семінара з вуснаў яго ўдзельнікаў. Звычайна школьныя настаўнікі задаюць вучням безліч пытанняў, чакаючы правільных адказаў, аднак дзяўчаты і хлопцы не вучацца пытанні задаваць. На думку Г.А.Бутрыма, школьная рэформа ў нашай краіне немагчыма без выканання педагогамі дзвюх задач: стварэнне такіх вучэбных дапаможнікаў, падручнікаў, планаў, якія спрыялі б развіццю мыслення і вучылі прымяняць атрыманыя веды на практыцы; максімальнае выкарыстанне выхаваўчага патэнцыялу ў кожнай без выключэння вучэбнай дысцыпліне. Іншымі словамі, веды ні ў якім разе не з'яўляюцца самамэтай.

Магчыма, многія настаўнікі захочуць паспрачацца наконт выканання гэтых дзвюх задач, маўляў, спачатку забяспечце новымі дапаможнікамі. Аднак, дарагія педагогі, у час, калі наша моладзь, як ніколі, падвяргаецца небяспечнаму дрэннаму ўплыву, чакаць няма як. Ад вашай упартасці, цярплівасці залежыць тое, якімі вырастуць нашы і вашы дзеці. Менавіта таму, не зважаючы на акалічнасці, неабходна ўступаць у барацьбу не толькі за адукаваную, але і выхаваную з вашай дапамогай асобу.

Што такое кіраванне выхаваннем? Гэта не толькі рэкамендацыі, але і разуменне стратэгіі і тактыкі, задач і мэтаў выхавання. Таму вялікую каштоўнасць у час, калі не да канца сфарміраваны асновы грамадзянскага грамадства і дзяржаўнай ідэі, прадстаўляюць пэўныя дакументы. Напрыклад, 30 лістапада 1999 г. калегіяй Міністэрства адукацыі была прынята "Канцэпцыя выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі". Гэта тэарэтыка-метадалагічны дакумент, таму "Праграма выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі" больш дзейсна дапаможа настаўніку зарыентавацца і спланаваць сваю работу. Праграма падаецца як арганізацыйна-метадычны дакумент, зацверджаны загадам міністра 24 лістапада 2000 г. І гэты навучальны год, спадзяемся, з яе выкарыстаннем стане больш плённым, чым мінулыя.

Па словах начальніка Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі, гэтыя праграмы шмат у чым носяць характар рэкамендацый, таму што формы работы ў розных рэгіёнах, абласцях — свае, што неабходна ўлічваць.

— Выхаванне дзіцяці вядзецца 24 гадзіны ў суткі, — гаворыць Г.А.Бутрым. — Таму калі мы не будзем узаемадзейнічаць з усімі сацыяльна-выхаваўчымі інстытутамі, не будзем планаваць — нічога не атрымаем. Школа — не цэнтр выхаваўчай работы, а каардынатар. Дзіця ж выхоўваецца ўсім укладам жыцця. І ў першую чаргу ў сям'і... Усё гэта неабходна ўлічваць.

Сапраўды, наша жыццё, яго ўклад маюць пераважнае значэнне. Аднак што рабіць, калі Беларусь выйшла на першае месца па колькасці дзіцячага сіроцтва сярод краін СНД? Зараз у нас амаль 30 тысяч сірот пры жывых бацьках! Гэта гаворыць аб крызісе нашай сям'і, аб крызісе ў грамадстве. Нас вельмі непакоіць наркаманія, яе хуткае распаўсюджванне.

Хоць алкагольная залежнасць паціху зніжаецца, аднак, па афіцыйных даных, кожны год у міліцыі на 1 — 1,5 тысячы больш дзяцей затрымліваецца ў п'яным выглядзе (у мінулым годзе такіх непаўналетніх у рэспубліцы налічвалася каля 30 тысяч).

А мова? Часам мы на гэта не звяртаем увагі. Калі хлопчык стаіць побач з дзяўчынкамі, з цыгарэтай у роце, а з вуснаў акрамя дыму — "трохпавярховы" мат. І гэта падаецца нармальным яго сяброўкам-аднакласніцам. Але ж гэта катастрофа.

Зразумела, каб вырашыць усе гэтыя праблемы, неабходна стварыць належныя не толькі сацыяльна-эканамічныя, але і маральна-псіхалагічныя асновы жыццядзейнасці, і ў першую чаргу ў сям'і. Здаровы лад жыцця, стварэнне сіроцкіх прытулкаў у кожным раёне, непрыняцце хамства, недапушчальнасць злачыннасці — той мінімум, які спрыяе выхаванню. На жаль, калі дзеці здзяйсняюць злачынствы — яны не злачынцы, а ахвяры нашага жыцця.

— Многае, калі не ўсё, — сказаў Г.А.Бутрым, — залежыць і ад кіраўніцтва ў школах. Мы хацелі б, каб у раённых, абласных аддзелах адукацыі былі паўнацэнныя структуры кіравання выхаваўчай работай і абароны правоў дзіцяці. Вялікае значэнне павінна надавацца дырэктарам навучальных устаноў, іх культуры, інтэлігентнасці... Разумею, што гэта цяжка. Таму трэба разам — школе, бацькам вучняў, грамадству — узаемадзейнічаць. Вось тады мы зможам выхаваць вучня быць больш сумленным і на ўроку, і па-за ім.

З дакладам "Агульныя тэарэтычныя ўяўленні аб праектаванні ў практыцы выхаваўчай работы" выступіў загадчык кафедры зместу метадаў выхавання Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Андрэй Маліноўскі, які адразу звярнуў увагу прысутных на паняцці "праект" і "мадэляванне", у якіх неабходна разбірацца. Такім чынам, праект — гэта заўсёды нешта новае, а мадэляванне — гэта адлюстраванне таго, што ёсць.

А.В.Маліноўскі вылучыў тры ключавыя ідэі свайго выступлення. Першы блок тычыцца непасрэдна працэсу інавацыйнага праектавання, другі — кампетэнтнасці. Трэці складаецца з асэнсавання таго, што праектаванне выхаваўчай дзейнасці адбываецца ў зусім новай метадалогіі. Якімі б добрымі ні былі асобныя рэформы, вопыт мінулага — выхаванне сёння ўсё роўна адбываецца з другой метадалогіяй.

Па словах Андрэя Маліноўскага, выхаванне — гэта забеспячэнне дыялогу двух аўтаномных суб'ектаў — дзіцяці і дарослага — у калектыўнай дзейнасці.

Пазіцыя дарослага ў выхаванні — гэта пазіцыя пасрэдніка. Дзіця забяспечвае працэс зліцця дзвюх культур: асобы і грамадства. А культура чалавека, асобы — гэта культура яго чаканняў, пэўныя патрабаванні. І задача педагога-выхавацеля бачыцца ў праяўленні гэтых патрабаванняў.

Дэкан факультэта кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў АПА Ірына Прачакова засяродзіла ўвагу на фарміраванні культуры ненасілля.

Дзеці не павінны пакутаваць ад дзеянняў дарослых, якімі б прымушэннямі яны ні матываваліся, таму любыя тэхналогіі, сродкі, прыёмы педагога павінны стаць мадэллю, пабудаванай на карысць дзіцяці. Яна працуе на ўнутраным узроўні — узроўні сумлення. Ядром ненасільнай тэхналогіі з'яўляецца сапраўдны чалавечы характар адносін настаўніка і вучня.

Не навіной падаецца прычынна-выніковая абумоўленасць насілля. Паразважайце — насілле ў сям'і, школе... Калі з дзецьмі абыходзяцца жорстка, яны вырастаюць жорсткімі. Дзе ж выйсце? Як бачна, у выхаванні ў атмасферы ненасілля, якое ўвасабляе і філасофію, і лад жыцця, і маральную пазіцыю педагога-выхавацеля. І ўсё гэта — найбольш прадуктыўны метад вырашэння сацыяльных і чалавечых канфліктаў.

Кацярына Лучынская, старшы выкладчык кафедры зместу і метадаў выхавання Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, вяла гаворку на пасяджэнні аб інавацыйных педагагічных тэхналогіях у кіраванні выхаваўчай работай.

Па словах К.Ф.Лучынскай, крыніцай інавацыйных педагагічных тэхналогій з'яўляюцца патрабаванні дзяржавы, канкрэтных рэгіёнаў, школы і кожнага вучня асобна. Заўважу, што гэтая думка ўжо гучала падчас выступлення Георгія Аляксеевіча Бутрыма. Наступнай крыніцай было названа развіццё педагагічных інавацый і навуковыя даследаванні сумежных дысцыплін: філасофіі, сацыялогіі, псіхалогіі. І, нарэшце, педагагічная практыка.

Пасля пленарнага пасяджэння на наступны дзень семінара яго ўдзельнікаў чакала больш практычная частка работы — у групах. "Навучанне равеснікаў равеснікамі", "Праблемы ўзаемаадносін у адукацыйным асяроддзі", "Уменне быць бацькамі" і "Уменне быць здаровымі" — настаўнікі гімназіі № 12 падзяліліся з калегамі сапраўды цікавым вопытам. Што і казаць, пасля прадстаўлення сваёй навучальнай установы дырэктарам К.П.Пятрушай і намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце Г.Ф.Бядулінай становіцца відавочным, што раўняцца трэба на такія гімназіі. Дарэчы, адна ўдзельніца семінара напрыканцы заявіла, што паедзе дадому і "перавернe ўсю сваю школу", у добрым сэнсе гэтага слова. Канешне, эмоцыі. Але ж — не на пустым месцы.

**Вольга ДУБОВІК.**

Падрабязнасці для "НГ"

# Міжцаркоўны дыялог

***Па запрашэнні Экзархату Беларускай праваслаўнай царквы і асабіста Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ў Мінску пабывала дэлегацыя Італьянскай Епархіі Бальцана-Брэсаноне на чале з епіскапам Вільгельмам Эгерам. Пры арганізацыйнай падтрымцы Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Хрысціянскі адукацыйны цэнтр імя святых Мяфодзія і Кірыла" адбылася сумесная багаслоўская і рэлігіязнаўчая канферэнцыя пры ўдзеле тэолагаў, рэлігіязнаўцаў і філосафаў, якія прадстаўляюць праваслаўную царкву Беларусі з аднаго боку і каталіцкую царкву Італіі з другога боку.***

Мэта гэтай канферэнцыі — працягнуць міжцаркоўны дыялог і навуковае супрацоўніцтва вучоных, якія прадстаўляюць усходне-хрысціянскія і заходне-хрысціянскія традыцыі. Тэматыка канферэнцыі вельмі разнастайная і ахоплівае цэлы спектр актуальных для багаслоўя і свецкай гуманітарнай навукі напрамкаў.

У дзень адкрыцця канферэнцыі з дакладамі выступілі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, дэкан факультэта тэалогіі і прэзідэнт Хрысціянскага адукацыйнага цэнтра імя святых Мяфодзія і Кірыла і епіскап Эгер, які ўзначальвае італьянскую дэлегацыю.

Канферэнцыя прадоўжыла шэраг сур'ёзных міжнародных мерапрыемстваў, якія Хрысціянскі адукацыйны цэнтр імя святых Мяфодзія і Кірыла арганізуе ў гонар святкавання 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова. Міжнародныя экуменічныя хрысціянскія кантакты ўносяць асаблівы дух у дзейнасць традыцыйных для Беларусі цэркваў па адраджэнні страчаных у савецкі атэістычны час адукацыйных, сацыяльных і навуковых традыцый, звязаных з узаемадзеяннем філасофіі, тэалогіі і навукі. Міжнародныя кантакты на царкоўным узроўні карысныя не толькі для тэолагаў, яны ўзбагачаюць культурную і навуковую сферу ў Рэспубліцы Беларусь.

Гэта не першы візіт прадстаўнікоў епархіі Бальцана-Брэсаноне ў нашу краіну. Даўнія кантакты звязваюць Хрысціянскі адукацыйны цэнтр імя святых Мяфодзія і Кірыла, факультэт тэалогіі ЕГУ і царкоўныя навуковыя цэнтры Паўночнай Італіі.

Рэспубліка Беларусь у апошнія 5 гадоў традыцыйна з'яўляецца месцам правядзення міжнародных форумаў, якія арганізуюцца па ініцыятыве праваслаўнай царквы. Царкоўныя ініцыятывы павінны і могуць спрыяць лепшаму ўзаемаразуменню паміж еўрапейскімі краінамі і паміж рознымі культурнымі традыцыямі. Пра гэта таксама ішла гаворка на канферэнцыі, у прыватнасці, пра супрацоўніцтва традыцыйных для Еўропы цэркваў і дзяржавы ў галіне адукацыі. На жаль, у нашай краіне, як і ў многіх краінах постсавецкай прасторы, заканадаўчая база не ў поўнай меры артыкулюе магчымасць партнёрства гістарычна традыцыйных цэркваў і сярэдняй і вышэйшай школы, што, дарэчы, прыводзіць да безабароннасці маладога пакалення перад актыўным псеўдарэлігійным націскам.

Нашы суседзі (напрыклад, Расія) актыўна адраджаюць хрысціянскія навучальныя ўстановы, кафедры і факультэты тэалогіі, рэфармуюць сістэму сярэдняй дзяржаўнай адукацыі, прыцягваючы, у прыватнасці, праваслаўную царкву да супрацоўніцтва ў галіне выкладання гуманітарных прадметаў. У адной Маскве ёсць больш за дзесятак праваслаўных гімназій і іншых навучальных структур, якія падтрымліваюцца ўрадамі Масквы і Расіі.

Рэспубліцы Беларусь увогуле трэба нямала зрабіць, каб знайсці разумны баланс у гэтай сферы. Мы спадзяемся, што названая навуковая багаслоўская і рэлігійна-філасофская канферэнцыя дасць магчымасць прадстаўнікам розных светапоглядных накірункаў (і веруючым, і атэістам) лепш зразумець тэалагічную і рэлігіязнаўчую праблематыку і прыйсці да высновы, што царква і грамадства не могуць быць адасоблены, а павінны дапаўняць і ўзбагачаць адзін аднаго.

**Ганна ІВАНОВА,**
**рэферэнт па міжнародных сувязях факультэта тэалогіі ЕГУ.**

Папытайце ў кнігарні

# Выкладчыкі БДУ — школе

***Чым бліжэй школьныя экзамены, тым мацней хваляванне будучых абітурыентаў. На першы план выступаюць пытанні тыпу: "Дзе знайсці патрэбную літаратуру?", "Як лепей падрыхтавацца?", "Як патраціць мінімум часу на падрыхтоўку?". Пытанні не пустыя, бо многім з сённяшніх школьнікаў адказы на іх давядзецца шукаць і потым, на студэнцкай лаўцы.***

Зусім нядаўна выйшла ў свет невялікая (96 старонак) па аб'ёму кніга, якая дапаможа школьнікам з мінімальнымі затратамі сіл і энергіі паспяхова здаць экзамены па гісторыі роднага краю. Напісаў яе калектыў аўтараў, дацэнтаў і выкладчыкаў Белдзяржуніверсітэта на чале з дэканам гістарычнага факультэта С.М.Ходзіным. Сама яе назва "Матэрыялы па гісторыі Беларусі да выпускнога экзамену. 9 клас. Білеты. Прыклады адказаў. Даведачныя звесткі" гаворыць пра тое, што школьнікі знойдуць на яе старонках у максімальна сціслай форме звесткі, якія спатрэбяцца ім на экзаменах.

Раім пазнаёміцца з гэтым выданнем і педагогам школ, якія цалкам могуць выкарыстоўваць яго ў якасці вучэбна-метадычнага дапаможніка. Кніга выдадзена абмежаваным тыражом. І можна толькі павіншаваць тых, каму ўдасца яе купіць.

**У.МІХАЛЬЦОЎ.**

# Да юбілею славутага гісторыка

***Споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага і рускага гісторыка, навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Расійскай Акадэміі навук (Масква) Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, які зрабіў неацэнны ўклад у гісторыю ўсходніх славян.***

Да юбілею славутага вучонага ў залатой кніжнай серыі "Беларускі кнігазбор" выйшаў аб'ёмісты том яго выбраных твораў, у які ўключаны не толькі важнейшыя гісторыка-этнаграфічныя працы вучонага, але і яго надзвычай цікавыя краязнаўчыя нарысы яшчэ з 20-х гадоў мінулага стагоддзя, пісьмы да дзеячаў навукі і культуры Беларусі і Расіі. Адкрываецца кніга вялікім этнаграфічным нарысам пра яго родную Віцкаўшчыну "Была такая вёска", дзе вельмі ярка паказаны быт і ўмовы жыцця беларускай дакалгаснай вёскі.

Значную частку кнігі займаюць мемуары Мікалая Улашчыка пад назвай "Хроніка". У ёй расказваецца пра цярністы шлях вучонага — пра яго пастухоўскае дзяцінства ў калямінскай вёсачцы Віцкаўшчына, пра навучальныя і жыццёвыя універсітэты, якія ён праходзіў у Мінску, Ленінградзе і Маскве, а таксама пра сем кругоў гулагаўскага пекла, якое было наканавана прайсці гісторыку, беспадстаўна абвінавачанаму ў "нацдэмаўшчыне", і з якога яму дапамог вызваліцца расійскі акадэмік, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук СССР Леан Абгаравіч Арбелі. Чытаецца "Хроніка" як самы захапляльны раман: у ёй жа праз асобу аўтара паказана ўся гісторыя савецкага народа, яго самыя цяжкія і трагічныя старонкі.

Склалі кнігу маскоўскі вучоны, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя А.М.Горкага Расійскай Акадэміі навук Аляксей Каўка і сын аўтара Аляксандр Улашчык, таксама масквіч.

Аднатомнік "Выбранае" Мікалая Улашчыка ў папулярнай серыі "Беларускі кнігазбор" — выдатны, даўно чаканы падарунак для яго старэйшых і маладзейшых сяброў-навукоўцаў, для настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў, а таксама для ўсіх тых, хто хоча ведаць гісторыю і культуру сваёй Бацькаўшчыны.

**К.АЛЕКСАНДРОВІЧ.**



Здароўе дзяцей — здароўе нацыі

# Ад фізічнага да інтэлектуальнага патэнцыялу

***Праблему харчавання школьнікаў вырашаць сёлета стала найбольш цяжка. Сацыяльныя і эканамічныя перыпетыі нашага грамадства выклікалі дэфіцыт грашовых сродкаў, што негатыўна паўплывала на вырашэнне гэтай складанай задачы. Але ўхвальна, што кіруючыя органы сталічнай адукацыі трымаюць гэтае пытанне пад пільным кантролем і шукаюць аптымальныя шляхі для таго, каб здароўе нацыі ўмацоўвалася з дзяцінства.***

Надзённай стала гэтая праблема і для адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска, якую ўзначальвае Л.С.Матусевіч. Пры непасрэдным удзеле намесніка кіраўніка адміністрацыі Валянціны Лукашонак распрацавана шматгранная праграма, якая накіравана на вырашэнне праблемы харчавання ў школах і дашкольных установах Фрунзенскага раёна.

Адметна, што і ў папярэднія гады гэтае пытанне знаходзіла сваё вырашэнне без адтэрміновак, і дзеці раёна атрымлівалі якаснае і разнастайнае харчаванне. На працягу студзеня ў навучальных і дашкольных установах працавала кампетэнтная камісія, якая скрупулёзна вывучала стан школьных і дашкольных сталовак, цікавілася якасцю прыгатаваных страў, меню, а таксама ўзроўнем тэхналагічнага абсталявання.

З 2001 года ў раёне працуюць 42 школьныя сталовыя, 48 дзіцячых дашкольных устаноў, падведамасных аддзелу адукацыі, 15 ведамасных дзіцячых садкоў. Усе яны ўкамплектаваны неабходным абслуговым штатам.

У мэтах паляпшэння арганізацыі харчавання дзяцей на працягу 2000 года ў 30 навучальных установах раёна было набыта каля 70 адзінак тэхналагічнага абсталявання, абноўлена мэбля, палепшана эстэтычнае афармленне сталовых.

Характэрна актывізацыя ў гэтым плане работы адміністрацыі школ, дзіцячых садоў, якім неабыякава, чым і як харчуюцца іх падапечныя.

Ва ўсіх навучальных установах выдадзены адпаведныя загады кіраўнікоў па арганізацыі харчавання, створаны грамадскія камісіі па кантролі за харчаваннем.

Дзеці з малазабяспечаных і нядобранадзейных сем'яў, дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця забяспечаны бясплатным і льготным харчаваннем. Так, рашэннем Фрунзенскай адміністрацыі за першае паўгоддзе гэтага навучальнага года выдзелена бясплатнае харчаванне 2652 навучэнцам, 2132 вучні атрымліваюць бясплатнае і льготнае харчаванне па дапамозе, 602 дзіцяці падрыхтоўчых класаў атрымліваюць бясплатныя абеды, што ў цэлым складае больш за 10 працэнтаў навучэнцаў раёна. 91,7 працэнта дзяцей атрымліваюць экспрэс-снеданні.

Дарэчы, пры праведзеным анкетаванні ўсе школьнікі раёна падтрымалі наяўнасць экспрэс-снеданняў і выказаліся за іх раз-настайнасць.

Менавіта гэтае пытанне сярод іншых было ўзнята ў час пасяджэння дырэктараў школ і дашкольных устаноў раёна, якое было прысвечана вынікам работы сталовых школ і дзіцячых садкоў і праведзена на базе Мінскай школы № 136, якую ўзначальвае спрактыкаваны кіраўнік і таленавіты педагог В.С.Каткова. Вялікую зацікаўленасць у прысутных выклікала выстава разнастайных страў, якія можна прыгатаваць для дзяцей у школах і дзіцячых садках. Адразу ж уразілі багатая фантазія, эстэтычны густ і, безумоўна, высокая якасць прадстаўленых вырабаў, прыгатаваных умелымі рукамі повараў.

Салата "Сонечная", запяканка "Калабок", кактэйль "Чырвоная Шапачка", тэфтэлі "Вожык", тварожны "Муравейнік" — назвы страў былі паэтычныя і казачныя, што яшчэ больш прываблівала дзяцей.

Асобнае месца на выставе займала выпечка: пірагі і булкі, якія мелі такую мудрагелістую форму, што так і хацелася паспытаць печаную ружу альбо грыбок-баравік.

Зацікавілі ўдзельнікаў нарады прадстаўленыя стравы экспрэс-харчавання. Іх было некалькі дзесяткаў найменняў! Бутэрброды "Апетытны", "Заліцісты", "Кастрычнік", гамбургеры з каўбасой, сырам, сасіскай, катлетай, смажанкі з каўбасой, яйкам, мясам, беляшы дамашнія, сасіскі і катлеты ў цесце, піражкі, ватрушкі з павідлам, тварагом, рысам, чай з лімонам, мятай, рамонкай і нават з крапівой. Усяго і не пералічыць, і не паспытаць, толькі вочы разбягаюцца!

Але адной толькі дэгустацыяй нарада не абмежавалася.

На парадак дня пасяджэння былі вынесены праблемы здароўя нашых дзяцей, якое залежыць, безумоўна, у першую чаргу ад харчавання.

У сваім выступленні загадчыца аддзела цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алена Барысевіч зазначыла, што стала відавочнай тэндэнцыя росту захворванняў дзяцей і падлеткаў, звязаных з працэсам навучання, адсутнасцю паўнацэннага харчавання на фоне павышаных вучэбных нагрузак. Гэта ўплывае на пагаршэнне нервова-псіхічнага стану дзяцей, а таксама на развіццё хранічных хвароб.

Насцярожвае той факт, што змяншаецца колькасць абсалютна здаровых дзяцей, якія павінны належаць да першай групы здароўя. Іх усяго налічваецца сёння па раёну 7,7 працэнта. Асноўная маса дзяцей уваходзіць у другую групу здароўя, гэта крыху больш 70 працэнтаў. Яна адрозніваецца адсутнасцю хранічных захворванняў, але вызначаецца паніжанай супраціўляльнасцю.

Адметна, што да першай і другой групы належаць у асноўным дзеці дашкольнага ўзросту. Стан іх здароўя пагаршаецца з узростам. Структура захворванняў школьнікаў уяўляе сабою цэлы букет хвароб. Першае месца ў гэтым змрочным спісе займае хвароба органаў дыхання, потым ідуць хваробы органаў нервовай сістэмы і страваванія.

Відавочна, пытанне харчавання павінна стаць агульнай справай сям'і, школы, грамадства, і вырашаць яго трэба тэрмінова. Свае меркаванні выказалі ў выступленнях інспектар упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама В.П.Фалей, намеснік начальніка Фрунзенскага раённага аддзела адукацыі С.П.Главацкая, загадчыца камбіната школьнага харчавання Л.І.Васільева, дырэктары школ і дзіцячых садкоў.

На пасяджэнні прысутнічаў кіраўнік адміністрацыі Фрунзенскага раёна Леанід Матусевіч, які выказаў спадзяванне ў станоўчым вырашэнні праблемы харчавання ў школах і дашкольных установах раёна. З боку адміністрацыі ім будзе забяспечана надзейная падтрымка.

Удзельнікі нарады абмеркавалі прапанаваныя рэкамендацыі па ўзнятым пытанні. Наступнае пасяджэнне па выніках чарговай, сакавіцкай, праверкі сталовых навучальных і дашкольных устаноў Фрунзенскага раёна адбудзецца ў красавіку.

**Ала КЛЮЙКО.**

Чытач працягвае размову

# Дык чаму ж старэе школа?

***Вельмі слушна педагог (прытым непрацуючы) Яўген Шырокі выказаў набалелае пра настаўнікаў-пенсіянераў, якія сёння па тых ці іншых прычынах вымушаны працаваць у школе ("Настаўніцкая газета" ад 25 снежня 2000 г.). Выступіў у абарону настаўнікаў-пенсіянераў, якіх балюча закрануў у сваім артыкуле К.Карнялюк "Чаму школа становіцца пенсійна-старой?" ("НГ" ад 18.11.2000 г.).***

Я згодзен з Я.Шырокім у тым, што ні адзін з учарашніх выпускнікоў ВНУ, нават самыя падрыхтаваныя і эрудзіраваныя з іх, не змогуць даць больш глыбокія і трывалыя веды, чым настаўнік-пенсіянер, які з асалодай душы выкладаў і выкладае свой любімы прадмет. І не кожны дрэмле на ўроку. Хіба, скажам, можа больш даходліва растлумачыць матэрыял гісторыі ў дзевятым класе прызначаны настаўнік гісторыі, прытым ён не спецыяліст, які мае яшчэ ў дадатак да ўсяго спецыяльнасць дашкольнага выхавальніка, чым састарэлы настаўнік гісторыі, які мае адпаведную адукацыю і шматлікі педагагічны вопыт работы, а яшчэ больш таго, пераіжыў гады Вялікай Айчыннай вайны, пасляваенныя гады, Хрушчоўскі перыяд, Брэжнеўскі і пасля яго. Хіба можа гэты настаўнік задрамаць, успамінаючы разам з вучнямі ўсё гэта перажытае? Вядома, не. Хутчэй за ўсё на гэтым уроку будзе драмаць малады непадрыхтаваны настаўнік, які задасць вучням самастойна перачытваць наступны па тэме параграф, а сам будзе, пазяхаючы, чакаць канца ўрока. Дык, можа, паважаны Карнялюк, тут пачынаецца, фарміруецца пенсійнае старэнне школы? А можа яно яшчэ і ў тым, што ў школу цяпер трапляюць, іншы раз, зусім выпадковыя людзі, якія далёкія-далёкія ад усёй гэтай псіхалогіі, педагогікі і методыкі школьнага навучання, якім, як ужо і прадказана, ніколі не засвеціць. Прыкра глядзець, калі настаўнік з вышэйшай адукацыяй не ўмее звязаць два словы, у размове з-за недахопу патрэбных слоў прыбягае да жаргонных выказванняў, што датычыць арфаграфіі — грубыя памылкі дапускае нават у класным журнале. Што датычыць адносінаў вучняў да такога настаўніка і яго да вучняў — гэта штосьці непрадказальнае.

Дык, можа, паважаны спадар Карнялюк, з гэтага пачынаецца старэнне школы?

І старэе школа не па ўзросту настаўніка-пенсіянера, а па "маладой" старасці таго, хто кіруе гэтай навучальнай установай. Калі дырэктар і яго намеснік далёкія ад усяго таго, што яны павінны ведаць і рабіць, і калектыў навучальнай установы пакінуты і існуе сам па сабе, тут абавязкова наступае старэнне школы і не па віне настаўнікаў-пенсіянераў. Наадварот, у такіх выпадках гэтыя мудрыя з нялёгкім жыццём настаўнікі не даюць затухнуць агеньчыку, які распалілі яны яшчэ ў далёкай сваёй маладосці, калі больш-менш займалася прадумана ў той час падборам і расстаноўкай педагагічных кадраў, калі паступалі ў педагагічныя навучальныя ўстановы юнакі і дзяўчаты, у большай сваёй колькасці, па прызванні і не стаялі ў чарзе 4 — 5 гадоў, каб атрымаць дыплом. Трэба ўлічваць і гэтае.

І асноўнае, хіба, паважаны К.Карнялюк, працавалі б цяпер настаўнікі-пенсіянеры, калі б за сваю шматгадовую працу атрымлівалі б яны пенсіі, каб хоць крыху можна было звесці канцы з канцамі? Я многіх ведаю цудоўных непрацуючых цяпер настаўнікаў-пенсіянераў, якія атрымліваюць 20 — 25 тыс.рублёў. Прычыны розныя: малы стаж работы, выйшаўшыя па выслузе (25 гадоў стажу), малы заробак і г.д. Пагадзіцеся, рэдка хто з настаўнікаў-пенсіянераў цяпер мае поўны стаж работы 45 гадоў.

Каб мець такі поўны стаж у маленстве будучаму настаўніку трэба было не заканчваць дзесяцігодку, а з 15 гадоў ісці працаваць у калгас ці на іншую работу. А так як жа ты набярэш поўных 45 гадоў працоўнага стажу ў 60 гадоў? Вось і атрымліваецца, што настаўнік-пенсіянер далёка не ўсю сваю пенсію мае. А яшчэ горш таго, прыняты далёка непрадуманы пенсійны закон у пачатку дзевяностых гадоў аб тым, што ні ў якім разе працуючым пенсіянерам не робіцца дадатковы пераразлік пенсіі, калі ён працягвае працаваць пасля пенсійнага ўзросту, як было гэта раней. Чаму так? Адказу няма. Хаця гэтыя пенсіянеры рэгулярна штомесячна выплачваюць пенсійнае страхаванне і падаходныя падаткі. Так што, паважаны Карнялюк, не працавалі б цяпер настаўнікі-пенсіянеры, каб хоць крыху дзяржава ўзяла іх пад сваю апеку, каб хоць крыху палегчыла іх матэрыяльны дабрабыт. Але ж і не толькі ў гэтым справа. Многае значыць для гэтага пакалення людзей і іх энтузіязм, жаданне не быць па-за калектывам аднадумцаў.

Так што, як выказаўся ў сваім артыкуле Яўген Шырокі, патрэбна зняць галаўныя ўборы і нізка пакланіцца настаўнікам-пенсіянерам за іх вымушаную, нялёгкую і, на жаль, няўдзячную працу, за тыя веды, якія яны даюць нашым дзецям...

**Анатоль КАШЭВІЧ,**
**працуючы пенсіянер.**

